# Голас Радзімы

28 СТУДЗЕНЯ 1999 ГОДА

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 17000 рублёў.

№ 4
(2614)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.


АСОБА

## УСПАМІН ПРА АЛЕСЯ АДАМОВІЧА

Вольга ЯГОРАВА.

Масква. Бальніца. Інфаркт.

**17.1.92 г. Неяк забыў, што ўсяго толькі 8—9 гадоў да 2000 года і мог бы дацягнуць. Вось бы, а! Гэта ж 6,5 мільярда шчаслівчыкаў змогуць сказаць, што аказаліся на скрыжаванні тысячагоддзяў. Да наступнага вунь колькі яшчэ чакаць колькім пакаленням! Мае рацыю Пятрэнка: выбух энергіі на такіх скрыжаваннях (стагоддзяў) заўсёды вялізны. А тым больш — тысячагоддзяў. Ну ды досыць, чаго пажадаў.**

Радкі гэтыя напісаны Алесем Адамовічам у "закончаных главах незавершанай кнігі" "VIXI" ("Пражытае" — з лацінскага. — **В. Я.**) у главе "З-пад капельніцы"...

Я даражыла сяброўствам гэтага чалавека. Дарэчы, як было не пасябраваць з Адамовічам? Ён адгукаўся заўсёды, на любы кліч. Не сябравалі з Аляксандрам Міхайлавічам толькі што чыноўнікі ды бюракраты. Ён не даваў спакойна жыць. Яму было адкрыта больш, чым іншым. Заўсёды ён быў на вастрыні прамяня. А ўспрымалі чамусьці — як вастрыё іголкі. Да яго ставіліся больш строга, чым належала б...

Складаны шлях?..

Магчыма, хтосьці і думаў так, гледзячы збоку. Сам жа Аляксандр Міхайлавіч ніколі не зацыкліваўся на сабе і не скардзіўся на лёс. Яму пісалася! Гэта і ёсць шчасце літаратара. А крэда яго — паспяваць адгукнуцца своечасова, а то і апярэдзіць час; больш аддаваць, чым браць; а ў сутнасці нічога не браць сабе...

Быў хлапчуком у вайну, і раннія яго аповесці — пра вайну. Пазней увесь вопыт дзяцінства (а гэта самы дакладны і жыватворны вопыт) і асэнсаванне вайны сталым чалавекам, ужо вядомым пісьменнікам, выліліся ў вечную, памойму, "Хатынскую аповесць". "Я з вогненнай вёскі..." і "Блакадная кніга" напісаны некалькімі аўтарамі-паплечнікамі. Што ж іх аб'яднала? Ці толькі боль і праўда вайны? Не — Адамовіч! Яго асоба. Душа.

* * *

У доме Аляксандра Міхайлавіча — два партрэты. Бацька і маці. Рэдка ў гараджан убачыш фота сваякоў. Традыцыя паступова адыходзіць нават з вёскі. Але гэта славянская традыцыя. І ў гэтым мы падобныя. Мае бацька і маці падобныя на бацьку і маці Адамовіча нават знешне, хаця мае родзічы — людзі іншага пакалення.

Бацька Аляксандра Міхайлавіча — Міхаіл Іосіфавіч — вельмі прыгожы чалавек, нечым падобны на французскага акцёра Жана Марэ, быў урачом. На фатаграфіі ён у гімнасцёрцы, з ордэнам Чырвонай Зоркі і сур'ёзным адкрытым позіркам. І маці — Ганна Мітрафанаўна, вельмі жаноцкая, але строгая. У сукенцы з белым каўнерыкам. "Калі ўсходзіць сонца, чалавек сустракае яго не аднымі вачыма, ён усяго сябе падстаўляе сонцу. Убачыць маму — гэта адчуць яе позірк на сабе, цеплыню яе вачэй... Адзіны ў свеце чалавек, які разумее ўсё,.." — напісаў Адамовіч у "Вайне пад стрэхамі".

* * *

У кабінеце Адамовіча, акрамя вялікага пісьмовага стала, — карціна. Восень. Распыленая туманам і сонцам — апошнім.

— Вось з гэтай карціны "выйшла" аповесць "Апошняя пастараль", — расказваў пісьменнік.

Гэта — чарнобыльская аповесць. Напісаў ён яе вельмі хутка, так што менш чым праз год пасля катастрофы яна ўжо была надрукавана ў маскоўскім часопісе "Новый мир". Яшчэ амаль ніякай інфармацыі пра Чарнобыль, не было карт, а аповесць была!

* * *

Найблізкі сябра Адамовіча, канешне, Быкаў. Сябравалі яны аддана, як хлапчукі. Умелі падтрымаць адзін аднаго. А аднойчы пасадзілі разам два дрэвы. Адзін дубок — Быкава, другі — Адамовіча. І вось быццам рок: дрэўца Адамовіча не прыжылося...



Наканавана яму было шмат паспець у жыцці, а пайсці — рана... Адбылася ў нас пра гэта размова — пра жыццё і смерць. Адамовіч пісаў пра жыццё і смерць чалавецтва. Пра жыццё і смерць планеты. Пра жыццё і смерць Сусвету. Ён лічыў, "што каханнем свет выратуецца"...

Аднойчы Адамовічу спадабаўся мой нарыс. І асабліва слова ў ім "неяхіднасць". Мы сустрэліся ў яго дома, быў Вялікдзень. Аляксандр Міхайлавіч хацеў падпісаць сваю аповесць, а тут увайшоў Быкаў. Мне было няёмка, што чакае Быкаў. Але Адамовіч працягваў думаць, як падпісаць аповесць: "Першай з секты неяхідных — Вользе Ягаравай з пажаданнем пасунуць хаця бы яе, яхідну-згубіцельку! Тым больш, што сёння — Вялікдзень!" Гэта было дзевятнаццатага красавіка восемдзесят сёмага года...

* * *

Адамовіч быў здзіўляюча чыстым чалавекам.

Мы ўспаміналі пра яго з Яўгенам Коктышам, фотарэпарцёрам (ні ў кога няма столькі фатаграфій пісьменніка, колькі ў Жэні).

Неяк Адамовіч адмовіўся забраць свой партрэт! Фатаграфаваў яго Жэня на дачы. А на сцяне — кабура пустая. Рассмяяўся: "Не патрэбны мне партрэт з кабурой, я ж пацыфіст".

Цяпер партрэт гэты — вялікая рэдкасць, захоўваецца ў мяне. Партрэт майго настаў-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

BIELARUSSIAN NEWS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BIELORRUSIA

*Тыдзень: Падзеі. Фотафакты.*

**ФОТАВЫСТАВА «ЛЮДЗІ І ВОЙНЫ»**

# КРОЎ ЛЮДСКАЯ — НЕ ВАДЗІЦА




У Палацы мастацтва праходзіць беспрэцэдэнтная па тэматыцы і матэрыялах фотавыстава "Людзі і войны". Выстава прадстаўлена Міжнародным камітэтам Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца. Яна ўключае 140 фатаграфій з 62 краін свету, дзе мелі месца канфлікты, 40 сведчанняў і іншыя гістарычныя дакументы. Выстава праводзіцца ў рамках супрацоўніцтва з нацыянальнымі таварыствамі Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца і прысвечана ахвярам вайны.

Чырвоны Крыж і мастацтва фатаграфіі з'явіліся амаль адначасова ў другой палове мінулага стагоддзя. Фатаграфія стала рэальным адлюстраваннем жыцця і сведкай смерці. Яна паўплывала на нашу свядомасць і прымусіла ўбачыць у ахвярах вайны звычайных людзей, падзяліць іх пакуты. Развіццю свядомасці чалавецтва спрыяе таксама гуманітарная дзейнасць Чырвонага Крыжа. Прадстаўнік гэтай арганізацыі Дамінік Бюф у сваёй прамове, прысвечанай адкрыццю выставы, заўважыў, што Міжнародны Камітэт Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, арганізоўваючы выставу, меў наступныя мэты: прымусіць убачыць, зразумець, дзейнічаць.

Убачыць бездапаможнага чалавека, у якога страляюць. "Убачыць у позірку гэтага мужчыны, гэтай жанчыны, гэтага дзіцяці падобнага да мяне чалавека".

Зразумець жа неабходна, што "гэты мужчына, гэта жанчына павінны быць абаронены ад самавольства і сляпога насілля з дапамогай агульнапрызнаных прававых нормаў..."

Прымусіць дзейнічаць — гэта значыць, на думку Д. Бюфа, "дзейнічаць, з тым каб міжнароднае гуманітарнае права выконвалася паўсюль".

Больш за стагоддзе гісторыі чалавецтва адлюстроўваецца ў фатаграфіях на выставе (1859—1996 гады). Больш за стагоддзе злосці, забойстваў, смерці і гора. Адно імгненне — пстрыкае фотаапарат, адно імгненне — раздаецца выстрал.

Людзі не ў стане зразумець, што жыць без вайны — жыць па-людску. У рэшце рэшт гэта больш выгадна, чым забіваць адзін аднаго. Людзі не разумеюць, што, забіваючы кагосьці, забіваеш частку сябе. Яны не здольныя ўспрымаць тое, што хтосьці не такі, як яны. Гэта іх раздражняе, гэта спрыяе канфліктам.

Людзі любяць дэманстраваць сваю ўладу, з дапамогай стрэлаў таксама. І яшчэ: яны не баяцца крыві. На выставе "Людзі і войны" чорна-белыя здымкі. Але ж такое адчуванне, што яна чырвоная ад крыві.

І што б ні казаў сёння прэзідэнт вялікай дзяржавы ЗША, які даў загад бамбіць Ірак, пра неабходнасць зробленага, нармальнаму чалавеку робіцца страшна ад таго, што адбылося. Па-першае, таму што ўсім хочацца жыць і людзей шкада. Па-другое, таму што кроў людская — не вадзіца.

Менавіта апошняя думка не дае спакою, калі глядзіш на фотаздымкі. Вельмі хочацца, каб людзі рабілі высновы са сваіх памылак і злачынстваў і не знішчалі адзін аднаго. Усё ж такі хутка XXI стагоддзе.

**Алена СПАСЮК.**



*Помнік Ф. Скарыне.*



*Помнік М. Гусоўскаму.*

Ва ўтульным дворыку БДУ з'явіліся два помнікі — Францішку Скарыну і Міколу Гусоўскаму. Гэтыя дзве медныя скульптуры падараваны універсітэту грамадска-асветніцкім клубам "Спадчына". Аўтар помніка Ф. Скарыну — скульптар Сяргей Адашкевіч, а помніка М. Гусоўскаму — Уладзімір Панцялееў.

Традыцыя ўзвядзення помнікаў у дварах універсітэтаў мае сваю гісторыю і сягае ў еўрапейскае сярэднявечча. У Кракаўскім (Ягелонскім) універсітэце стаіць помнік Мікалаю Каперніку, у Пражскім (Карлаўскім) — Яну Гусу, у Берлінскім — братам Гумбальтам, у Маскоўскім — М. Ламаносаву, у Віленскім — першадрукару Ф. Скарыну.

Варта адзначыць, што гэтыя помнікі выдатным дзеячам нашай культуры ўзведзены ў Мінску ўпершыню, а помнік М. Гусоўскаму — наогул першы ў Беларусі.

У рэктара БДУ Аляксандра Казуліна ёсць намер зрабіць універсітэцкі дворык гасцінным прытулкам і для іншых вялікіх людзей Бацькаўшчыны — Ефрасінні Полацкай, Васіля Цяпінскага, а таксама тых выдатных вучоных, якія працавалі ў БДУ і стварылі яго славу — першага рэктара Уладзіміра Пічэты, бацькі геаграфічнай навукі Беларусі Аркадзя Смоліча і бацькі гістарычнай — Мітрафана Доўнар-Запольскага, першага прэзідэнта АН БССР, прафесара БДУ Усевалада Ігнатоўскага і іншых.

**Анатоль БЕЛЫ,**
**старшыня клуба "Спадчына".**

# ЛАЎРЭАТЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1998 ГОДА

***У галіне прырода-знаўчых навук***

**БАРЫСЕВІЧ Мікалай Аляксандравіч**, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Расійскай акадэміі навук, загадчык лабараторыі Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **ТАЛКАЧОЎ Віталь Антонавіч**, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, загадчык лабараторыі таго ж інстытута, **БЛАХІН Аляксандр Паўлавіч**, доктар фізіка-матэматычных навук, галоўны навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **ПАВЯДАЙЛА Уладзімір Аляксандравіч**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, — за цыкл работ "Дынаміка вярчальнага руху электронна-ўзбуджаных шмататамных малекул у газавай фазе".

**ТАНАЕЎ Вячаслаў Сяргеевіч**, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дырэктар Інстытута тэхнічнай кібернетыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **САЦКОЎ Юрый Назаравіч**, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, галоўны навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **ГОРДАН Валерый Сяргеевіч**, доктар фізіка-матэматычных навук, дацэнт, галоўны навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **СТРУСЕВІЧ Віталь Аляксандравіч**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, дактарант таго ж інстытута, **ШАФРАНСКІ Якаў Міхайлавіч**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **КАВАЛЁЎ Міхаіл Якаўлевіч**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, — за цыкл работ "Мадэлі і метады тэорыі раскладаў".

**ГУДАК Сямён Паўлавіч**, кандыдат геолага-мінералагічных навук, дырэктар Беларускага навукова-даследчага геолагаразведачнага інстытута вытворчага аб'яднання "Белгеалогія", **КАШЫЦКІ Эдуард Сцяпанавіч**, кандыдат медыцынскіх навук, загадчык лабараторыі Беларускага навукова-даследчага інстытута неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, **КУДЗЕЛЬСКІ Анатоль Віктаравіч**, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, загадчык лабараторыі Інстытута геалагічных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **НЯЧАЕЎ Мікалай Уладзіміравіч**, генеральны дырэктар Беларускага рэспубліканскага аб'яднання "Белміжкалгасздраўніца" Беларускага савета калгасаў, **ХОМІЧ Пётр Захаравіч**, галоўны геолаг вытворчага аб'яднання "Белгеалогія", **ЯСАВЕЕЎ Марат Гумеравіч**, кандыдат геолага-мінералагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута геалагічных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, — за работу "Адкрыццё і народнагаспадарчае выкарыстанне радовішчаў мінеральных вод у Рэспубліцы Беларусь (навуковыя даследаванні, пошукава-разведвальныя работы медыка-бальнеалагічнае і пітное асваенне)".

**МУРАЎСКАЯ Галіна Уладзіміраўна**, доктар медыцынскіх навук, прафесар, кіраўнік аддзялення Навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, **ВІШНЕЎСКАЯ Кацярына Яфімаўна**, доктар медыцынскіх навук, прафесар, кіраўнік аддзела таго ж інстытута, **КРУЦІЛІНА Ніна Іванаўна**, доктар медыцынскіх навук, прафесар, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага інстытута ўдасканалення ўрачоў, **МАРОЗКІНА Таццяна Сяргееўна**, доктар біялагічных навук, прафесар кафедры Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута, **СУКАЛІНСКІ Уладзімір Мікалаевіч**, доктар медыцынскіх навук, прафесар, кіраўнік аддзялення Навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, **ТАРУЦІН Ігар Германавіч**, доктар тэхнічных навук, загадчык лабараторыі таго ж інстытута, — за цыкл работ "Вырашэнне праблемы павышэння эфектыўнасці лячэння анкалагічных хворых шляхам распрацоўкі і ўкаранення ў клінічную практыку новых спосабаў прамянёвай тэрапіі".

**КОПЦІК Іван Канстанцінавіч**, доктар сельскагаспадарчых навук, загадчык лабараторыі Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства і кармоў Акадэміі аграрных навук, **САМСОНАЎ Уладзімір Паўлавіч**, доктар сельскагаспадарчых навук, акадэмік Акадэміі аграрных навук, дырэктар таго ж інстытута, генеральны дырэктар навукова-вытворчага аб'яднання "Колас", **БУДЗЕВІЧ Галіна Вацлаваўна**, кандыдат біялагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **СЕМЯНЕНКА Міхаіл Васільевіч**, кандыдат сельскагаспадарчых навук, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **МІСКО Андрэй Васільевіч**, кандыдат сельскагаспадарчых навук, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **КАРЧМІТ Міхаіл Аляксандравіч**, старшыня агракамбіната "Сноў" Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці, — за работу "Стварэнне сістэмы сартоў азімай пшаніцы (Triticum aestivum) і тэхналогіі вытворчасці збожжа харчовага прызначэння".

**У ГАЛІНЕ ГУМАНІТАРНЫХ І САЦЫЯЛЬНЫХ НАВУК**

**МІХНЕВІЧ Арнольд Яфімавіч**, доктар філалагічных навук, прафесар, рэктар Беларускага інстытута праблем культуры Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, **ГЕРМАНОВІЧ Іван Клімавіч**, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, **БУЛЫКА Аляксандр Мікалаевіч**, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, загадчык аддзела Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **ШУБА Павел Паўлавіч**, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, **ШЧЭРБІН Вячаслаў Канстанцінавіч**, кандыдат філалагічных навук, памочнік прэзі-



ТЭАТРАЛЬНЫ ПАД'ЕЗД



*Ягайла. Гравюра з "Хронікі Еўрапейскай Сарматыі". 1578 г.*

# «КНЯЗЬ ВІТАЎТ» НА КУПАЛАЎСКАЙ СЦЭНЕ



*Вітаўт. Гравюра з "Хронікі Еўрапейскай Сарматыі". 1578 г.*

Гісторыя як ніколі цікавіць цяпер усе слаі нашага грамадства. І не толькі з прычыны, што з многага знята пячатка маўчання і мы маем магчымасць самі пераасэнсоўваць падзеі 50-, 100-гадовай даўнасці, а то і болей. Экскурсы ў гісторыю — гэта яшчэ і ўрокі, набыццё пэўнага вопыту, позірк праз стагоддзі на негатыўныя з'явы, якія і сёння недарэчныя. Вось адна з прычын прыцягальнасці спектакля "Князь Вітаўт", які ідзе на галоўнай сцэне Беларусі — у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы з пастаянным аншлагам. Легенды сівой даўніны — так вызначыў жанр п'есы яе аўтар, вядомы беларускі драматург Аляксей Дудараў. Мо адсюль і зададзеная акрэсленасць характараў двух галоўных герояў — Вітаўта і Ягайлы. Ох, і адгукаліся не адно стагоддзе іх княжацкія разборкі за ўладу і прастол. І ўсё ж ёсць за што нашчадкам быць удзячнымі Вітаўту, які стаў Вялікім князем. Менавіта ён, узначаліўшы аб'яднаныя войскі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага ў Грунвальдскай бітве, назаўсёды падарваў магутнасць Тэўтонскага ордэна і ўзмацніў незалежнасць сваёй дзяржавы.

І ў легендах, што складзены пра князя-ваяра і палітыка, засталося менавіта гэта, хаця ў сродках барацьбы за ўладу ён не вельмі саступаў Ягайлу. Вельмі выразныя вобразы ў спектаклі, пастаўленым галоўным рэжысёрам тэатра Валерыем Раеўскім, стварылі Генадзь Давыдзька і Аляксандр Гарцуеў. Толькі выканаўцу ролі Вітаўта значна цяжэй было, бо ён станоўчы герой, хаця ўчынкі яго не заўсёды адпавядаюць гэтай акрэсленасці. А Ягайла — Гарцуеў проста фантануе заганнымі страсцямі.

Увогуле спектакль прываблівае дынамічнасцю, відовішчнасцю — сцэнаграфія Б. Герлавана, харэаграфія М. Дударавай, музыка В. Капыцько.

Між іншым, пэўны настрой да спектакля стварае цікава выкананая праграмка з рэпрадукцыямі гравюр "Хронікі Еўрапейскай Сарматыі" (1578 г.) і аглядам асноўных падзей з жыцця князя Вітаўта, складзеным пісьменнікам Кастусём Тарасавым.

**Марта КОСЦІЧ.**





*Сцэны са спектакля.*



*Вітаўт — артыст Генадзь ДАВЫДЗЬКА.*

---

дэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **ПЛОТНІКАЎ Браніслаў Аляксандравіч**, доктар філалагічных навук, прафесар кафедры Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, — за работу "Беларуская мова. Энцыклапедыя".

**ЦЯГАКА Лідзія Іванаўна**, доктар медыцынскіх навук, загадчык аддзела Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **САЛІВОН Інеса Іванаўна**, доктар біялагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **МІКУЛІЧ Аляксей Ігнацьевіч**, доктар біялагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **МАРФІНА Вольга Уладзіміраўна**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **ПОЛІНА Наталля Іванаўна**, кандыдат медыцынскіх навук, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, — за цыкл работ "Чалавек і яго біякультурная адаптацыя".

### У ГАЛІНЕ ТЭХНІКІ

**БЕЛАВУС Анатоль Іванавіч**, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, намеснік дырэктара па навуцы навукова-даследчага канструктарска-тэхналагічнага прадпрыемства "Белмікрасістэмы" навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл", **ЕМЯЛЬЯНАЎ Віктар Андрэевіч**, кандыдат тэхнічных навук, прафесар, генеральны дырэктар навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл", **КАМАРОЎ Фадзей Фадзеевіч**, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, загадчык лабараторыі Навукова-даследчага інстытута прыкладных фізічных праблем імя А. Н. Сеўчанкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, **ЛАБАНОВІЧ Эдуард Францавіч**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, намеснік генеральнага дырэктара навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл", **СІЛІН Анатоль Васільевіч**, кандыдат тэхнічных навук, начальнік аддзела навукова-даследчага канструктарска-тэхналагічнага прадпрыемства "Белмікрасістэмы" навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл", **СОКАЛ Віталь Аляксандравіч**, доктар тэхнічных навук, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, — за цыкл работ "Распрацоўка новых метадаў праектавання і развіццё фізіка-тэхналагічных асноў стварэння высокіх тэхналогій вытворчасці канкурэнтаздольных мікраэлектронных вырабаў".

**ФЯЦІСАЎ Васіль Паўлавіч**, доктар тэхнічных навук, дырэктар па новай тэхніцы Беларускага металургічнага завода, **БІРУКОЎ Барыс Аляксандравіч**, кандыдат тэхнічных навук, загадчык Жлобінскага даследчага цэнтра металургіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **ФЕАКЦІСТАЎ Юрый Васільевіч**, кандыдат тэхнічных навук, генеральны дырэктар Беларускага металургічнага завода, **БАГЛАЙ Генадзь Валяр'янавіч**, намеснік начальніка тэхнічнага аддзела таго ж завода, **ФІЛІПАЎ Вадзім Уладзіміравіч**, дырэктар метызнай вытворчасці таго ж завода, **ПАЎЛЮЧЭНКА Анатоль Пятровіч**, начальнік сталядротавага цэха № 1 таго ж завода, — за работу "Комплексная распрацоўка тэхналогіі і асваенне вытворчасці канкурэнтаздольных канструкцый металакорду на Беларускім металургічным заводзе".

**НЕСЯНЧУК Анатоль Пятровіч**, доктар тэхнічных навук, прафесар кафедры Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, **ЦІМАШПОЛЬСКІ Уладзімір Ісакавіч**, доктар тэхнічных навук, прафесар, генеральны дырэктар ТАА "Гандлёвы дом "Славянскі метал і тэхналогіі" Беларускай асацыяцыі ліцейшчыкаў і металургаў, **СЦЯБЛОЎ Анвер Барысавіч**, доктар тэхнічных навук, тэхнічны дырэктар ЗАТ "Шэльф" Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў, **ТРУСАВА Ірына Аляксандраўна**, кандыдат тэхнічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, — за цыкл работ "Тэорыя высокатэмпературных энерга- і рэсурсазберагальных цеплатэхналагічных працэсаў у машынабудаванні і металургіі".

### ЗА ПАДРУЧНІКІ

**ПЯТРОЎ Мікалай Якаўлевіч**, кандыдат біялагічных навук, прафесар, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, **МЯДЗВЕДЗЬ Аляксандр Васільевіч**, прафесар, загадчык кафедры таго ж універсітэта, **КОЛАС Уладзімір Міхайлавіч**, кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры таго ж універсітэта, — за цыкл работ "Падручнік "Фізічнае выхаванне студэнтаў асноўнага аддзялення" і комплекс вучэбна-метадычных дапаможнікаў па тэорыі і методыцы фізічнага выхавання".

**ЯМЕЛІЧАЎ Уладзімір Аляксеевіч**, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, **МЕЛЬНІКАЎ Алег Ісідаравіч**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, **САРВАНАЎ Уладзімір Іванавіч**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, загадчык аддзела Інстытута матэматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, **ТЫШКЕВІЧ Рэгіна Іосіфаўна**, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, — за работу "Вучэбны дапаможнік "Лекцыі па тэорыі графаў" для вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установаў".

### ЛАЎРЭАТЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1998 ГОДА Ў ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ

***У галіне літаратуры:***
***імя Янкі Купалы (за творы паэзіі і драматургіі)***

**НЯКЛЯЕЎ Уладзімір Пракопавіч**, паэт, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўны рэдактар часопіса "Крыніца" і штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", — за кнігу вершаў і паэм "Прошча", апублікаваную ў 1996 годзе;

**МЯТЛІЦКІ Мікалай Міхайлавіч**, паэт, вядучы рэдактар рэдакцыі арыгінальнай літаратуры выдавецтва "Мастацкая літаратура", — за кнігу вершаў "Бабчын: Кніга жыцця", апублікаваную ў 1996 годзе;

***за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва***

**СКОБЕЛЕЎ Эдуард Марцінавіч**, пісьменнік, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар Інфармацыйнага бюлетэня Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, — за кнігі для дзяцей "Новыя незвычайныя прыгоды Арбузіка і Бябешкі" і "Дзіўныя прыгоды пана Дылі...", апублікаваныя ў 1996 і 1997 гадах;

***імя Кастуся Каліноўскага (за работы ў галіне мастацкай публіцыстыкі (літаратура, мастацтва)***

**МАРЦІНОВІЧ Аляксандр Андрэевіч**, журналіст, рэдактар аддзела літаратурнага жыцця штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", — за кнігу эсэ і нарысаў "Зерне да зерня: Гісторыя ў асобах: Эсэ, нарысы", апублікаваную ў 1996 годзе;

***за значныя работы ў галіне журналістыкі***

**ВЯЛІЧКА Уладзімір Паўлавіч**, журналіст, галоўны рэдактар часопіса "Беларуская думка", **ШЫРКО Васіль Аляксандравіч**, журналіст, загадчык аддзела часопіса "Беларуская думка", **ГЛУШАКОЎ Уладзімір Сцяпанавіч**, журналіст, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская думка", **ШЫМАНСКІ Міхаіл Мікалаевіч**, журналіст, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, — за цыкл публіцыстычных артыкулаў "Беларусь: Час і людзі ў роздуме журналістаў", апублікаваных у часопісе "Беларуская думка" і газеце "Рэспубліка" ў 1996—1997 гадах.

**(Заканчэнне будзе).**

АСОБА



# УСПАМІН ПРА АЛЕСЯ АДАМОВІЧА

ніка. Партрэт вялікага пісьменніка.

* * *

Адзінае, пра што не хацелася б мне пісаць і ўспамінаць, — пра смерць Адамовіча. Але — трэба. Трэба таму, што смерць і ёсць наша другое нараджэнне, нейкі вынік зямнога вопыту. Якім жа аказаўся простым і вялікім ён у Адамовіча…

**20.2.92 г. (6 гадзін). Уся ісціна ў тым, што памерці я хачу ў Беларусі, а ляжаць у Глушы. Там я звязаны з усімі. Тут жа толькі ты. Гэта — для жыцця. А для Вечнасці — Беларусь.**

Аляксандр Міхайлавіч памёр 26 студзеня 1994 года. У Маскве. У зале суда яму стала дрэнна: сэрца. Нягледзячы на перанесены вялікі інфаркт, пісьменнік чарговы раз не мог адмовіць некаму ў абароне годнасці.

Усё было па-людску ў смерці Адамовіча. І разрыў сэрца — за кагосьці, не за сябе, і развітанне ў Доме літаратара, і пахаванне ў роднай Глушы, на вясковых могілках, побач з маці і бацькам. І першы крыжык, які паставілі сяльчане, што сябравалі з пісьменнікам, помнік праз год пасля смерці, як мае быць, менавіта такі, які хацела жонка пісьменніка, — прыродны камень…

* * *

**20.5.92 г. І тым не менш кожны дзень жыцця — адкрыццё. Хаджу па вечарах і раптам заўважыў тое, чаго, здаецца, не заўважалі (не адзначылі): калі аб'яўляецца салавей, пачынае паласкаць горлышка, увесь птушыны лес следам асабліва стараецца — з'явіўся Майстар, і ўсе астатнія пачынаюць (сіліцца), стараюцца наперабой, кожны хоча падняць планку.**

Адамовіч зрабіў для нас усё, што мог. Цяпер шмат чаго належыць зрабіць і нам, каб увекавечыць памяць пісьменніка, выдаваць яго кнігі, учытвацца ў іх… І не забываць: ёсць адзінае, што звязвае і памерлых, і жывых, агульначалавечае, вечнае — каханне…

Пра гэта таксама нагадаў Аляксандр Міхайлавіч: "Ніколі не сварыцеся і не дзяліце нічога пасля маёй смерці, таму што я вас усіх вельмі люблю…"

Паміж радкоў чытаецца: любіце адзін аднаго…

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).





*У роднай вёсцы Глуша.*

*Фота Яўгена КОКТЫША.*

БЕЛАСТОЧЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

# ІЯРДАНЕ РУСІ

Алена ЯСКЕВІЧ,
*кандыдат філалагічных навук.*

Сакрата Яновіча можна было б назваць сімвалам Беластоцкага краю, але ж адцягнены змест гэтага слова зусім не сумяшчальны ні з асобай С. Яновіча, ні з ягонай творчасцю. Творчаць С. Яновіча вызначае канкрэтыка, заземленасць, углыбленне ў родныя карані: традыцыі, прыроду, псіхалогію.

Феномен яго творчасці міжволі вяртае нас да пачатку новай беларускай літаратуры, калі сама беларуская славеснасць "доўга цвіла не як садовы ружавы куст, а як вольная шыпшына, захоўваючы свой першародны водар". Відаць толькі рамантычны падыход стаўся здольным па-сапраўднаму адкрыць глыбіні душы народнай, спрадвечны водар прыроды і побыту нацыі. Адбывалася паступовае пазбаўленне ўсвядомленай мастацкай традыцыі ад амярцвелых і склератычных канонаў дыдактызму папярэдніх літаратурных напрамкаў, празмерна рацыяналістычных канцэпцый папярэдніх эпох. Перад нацыянальнай літаратурай паўставала найнадзённейшая задача складвання і выхавання чытацкай аўдыторыі. Для прыцягнення ж і зацікаўлення такой аўдыторыі была патрэбна літаратура, тоесная падарунку сэрца, пачуццю і мове, літаратура баладнасказавая па жанравых відах, у нечым сусальна-сінкрэтычная па змесце і арганізацыі формы, падобная побытаваму анекдоту ці рамантычнай фальклорнай легендзе.

У натуральна неспрыяльных умовах для беларускай літаратуры, калі, здавалася, пераважная ўвага на баку іншых культурных традыцый, праз непазбежнае прымерванне да развітых заходнееўрапейскіх літаратур, надзвычай цяжка давалася смеласць у сцвярджэнні роўнасці, годнасці свайго: мовы, звычаяў, гісторыі. І ці не адсюль і ў Сакрата Яновіча родная беларускай літаратуры XIX стагоддзя стылёвая адметнасць: натуральнасць апавядання, ашчаднасць выяўленчых сродкаў, побач са сціслым, амаль схематычным выкладаннем дапускаецца мерная дэталізацыя, элементы апісальнасці, паўторы, у наяўнасці прысутнасць шматлікіх абразкоў-замалёвак роднай прыроды, працы і побыту чалавека, што цеснымі каранямі звязана з народнай абрадавай традыцыяй.

Гумар твораў Сакрата Яновіча сапраўды як зброя чалавека з невычэрпнаю сілаю духа, вераю ў сваю ісціну. Увесь дыяпазон сродкаў мастацкай выразнасці камедыйнага роду літаратуры ад побытавага абразка-фражкі да сатыры і гратэску дапамагае аўтару ў звышзадачы яго як пісьменніка-філосафа ў адмаўленні зла і недарэчных праяў жыцця. Менавіта ў гумары сродак абароны і замацавання маральнай перамогі галоўнага героя твораў і аўтара, іх чалавечага права на самае простае зямное шчасце, трапяткое і гарачае, імгненнае і вечнае.

За архетыпам творчасці С. Яновіча глыбокая сівая старажытнасць, якая бярэ свой пачатак з дакласавага грамадства. Сярэднявечча з яго абвостраным парогам болю ад шматлікіх рэлігійна-нацыянальных войнаў і супрацьстаянняў, трагічнасць падзей новага часу, калі грамадска-дзяржаўны дабрабыт найчасцей пачаў абыходзіць Беларусь. І настальгічныя баладна-навелістычныя матывы найчасцей адцяняюць і надаюць трагічнасць яго ўжо знакамітаму сярод беларусаў, бадай, і славян гумару.

Калі ж задаемся пытаннем: да якога роду літаратуры варта аднесці такую ўжо сінкрэтычную творчасць С. Яновіча, то міжволі хочацца сцвердзіць — да эпікі, бо нешта надзвычай фундаментальна глыбіннае, непазбежна і спрадвечна побытавае прысутнічае ў яго прозе, здаецца, ён з апошніх тытанаў прозы, пяро якіх, падобна фолкнераўскаму ці талстоўскаму, яшчэ здольнае адолець раманную форму, гэтае наймудрэйшае і бязлітаснейшае люстра, прынесенае па прыгожых гасцінцах і трагічных скрыжалях нацыянальнай, а ў сапраўднасці, заўсёды і агульначалавечай гісторыі. Безумоўна, творы Сакрата — гэта ў нечым і хроніка жыцця нацыі, барацьбы духу, найбольш выяўленай праз побытавыя рэаліі. Дарэчы, гэта адна з найвышэйшых адзнак майстэрства і таленту празаіка (і ўвогуле пісьменніка) — праз трапную дэталь стварыць вобраз. І неяк з хутарскога правінцыяла вымалёўваецца постаць Сакрата Яновіча як пісьменніка еўрапейскага ўзроўню. Майстэрства дэталі напаўняе вобразную прастору Сакратавых твораў лірычным і драматычным настроем.

Чалавецтва ўжо даўно пераканалася, што не ўсё ў лёсе нацыі, як і ў чалавечым жыцці, вызначаецца маральнымі вартасцямі, розумам. У гісторыі нацыі, як і ў жыцці чалавека, шмат трагічнага і таямнічага, перад чым чалавечы род бездапаможны, а шчасце і дабрабыт наканаваны далёка не кожнаму, нездарма найбольш таленавітыя і добрасумленныя людзі заўсёды глыбока няшчасныя. І не адна з хрысціянскіх нацый не пазбегла ў гісторыі свайго існавання выпрабавання пакутамі і цярпеннем. Біблейскія кнігі Старога Запавету, кнігі Іова і Эклезіяста, найбольш прысвечаныя гэтай праблеме, вучаць чалавецтва шукаць шчасця ва ўсынаўленні, еднасці з Госпадам. Галоўны герой Сакрата Яновіча шукае свайго шчасця ў роднасці са сваім краем, малой радзімай. І праз флёр побытавых рэалій настойліва імкнецца зазірнуць у глыб чалавека, спасцігнуць законы яго душы, знайсці хаця б нейкую ілюзію, надзею для гістарычнага шчасця і гонару нацыі, і ў гэтай замілаванасці і ў нечым тоеснасці народнаму жыццю, як своеасабліваму "святому скрыжалю", — менавіта ў гэтым, — сам пісьменнік і яго галоўны герой бачаць сродак захавання і зберажэння сваёй нацыянальнай моцы, патэнцыі і перспектывы. І міжволі прыгадваецца думка, перафразуючы А. С. Пушкіна, што сталая славеснасць, мабыць, у асобе Сакрата Яновіча, стаміўшыся аднастайнасцю твораў мастацтва, абмежаваным колам мовы, вычварнай і абранай, звяртаецца да свежых выдумак народных, да нязвыклага прастамоўя, напачатку пагарджанага. Прыгадваецца, што вельмі тоесна на пачатку XIX стагоддзя быў успрыняты польскай грамадскасцю феномен поспеху першага зборніка



САСТАРОГА КУФРА

## ЛЕПЕЛЬСКІЯ СТРОІ

Лепельскія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Падзвіння. Бытаваў у XIX — пачатку XX стагоддзяў пераважна ў Лепельскім, Ушацкім, Чашніцкім раёнах. Аснову летняга касцюма жанчын складалі спадніца, фартух. Кашуля мела тунікападобны або з прамымі плечавымі ўстаўкамі крой, сціплае аздабленне вузкімі паскамі чырвона-чорнага геаметрычнага арнаменту на рукавах і плечавых устаўках. Спадніцу (саян, дрыліх, андарак, шарак) шылі з 3—4, у заможных сялян з 7 полак пярэстых або аднаколерных даматканых тканін у блакітна-белым, сіне-фіялетавым, вохрыста-чырвоным каларыце, фартух з 1—3 полак кужэльнага палатна, аздаблялі ўзорыстым ткацтвам (пераборы), вышыўкай (мярэжка), карункамі. Галаўныя ўборы — намітка, чапец, хустка, вянок, карона (галаўны ўбор дзяўчыны-мяшчанкі накшталт падвічкі з парчы, расшытай бліскаўкамі) і інш.

Мужчынскае адзенне складалі кашуля (насілі навыпуск, падпяразвалі поясам ці дзягай), нагавіцы, камізэлька з чорнай або цёмна-сіняй крамнай тканіны. Галаўныя ўборы — саламяны або лямцавы капялюш, белая магерка, картуз. Верхняе мужчынскае і жаночае адзенне — армяк, сярмяга, світка, кажух.



## МОТАЛЬСКІЯ СТРОІ

Мотальскія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення ў Заходнім Палессі. Бытаваў у XIX — першай палове XX стагоддзяў на невялікай тэрыторыі Іванаўскага раёна (вёскі Моталь, Тышкавічы, Асаўніца). Аснову летняга касцюма жанчын складалі кашуля, спадніца, фартух, гарсэт. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, прышытымі па аснове, са шматлікімі складкамі вакол стаячага каўняра. Тыповым прыёмам аздаблення былі звычайныя строчкі, уручную прашытыя чорнай баваўнянай ніткай упоперак стаячага каўняра, манжэты. Спадніца — гладкафарбаваны, бурачковы ці чырвоны андарак або палатнянік з белага кужалю, сабранага па лініі таліі на матузок. Фартух кроілі з 4 полак кужэльнага палатна, якія злучалі дэкаратыўным швом, што дазваляла насіць яго на два бакі. Арнамент натыкання вызначаўся дробным малюнкам чырвонага, чырвона-чорнага, блакітна-чырвона-чорнага геаметрычнага або раслiннага арнаменту. Гарсэт шылі з чырвонага фабрычнага сукна, з серабрыстай парчы, аздаблялі нашыўкамі тасьмы-галуна, стужак, пацерак. Гарсэт запраўлялі ў спадніцу і падпяразвалі шырокім бурачкова-чырвоным поясам ручнога пляцення. Галаўны ўбор — моцна накрухмаленая намітка, завітая на каробачку з чапцом, аздобленая кветкамі па баках або паўкругам спераду.

Мужчынскае адзенне складалі нагавіцы і кашуля навыпуск, падперазаныя шырокім плеценым поясам з кутасамі, галаўны ўбор — саламяны брыль, магерка. Верхняе адзенне — світка, катанка, куртка з чорнага валенага сукна, аздобленая цёмна-сіняй аблямоўкай, з бакавымі клінамі-"вусамі". Прыгожым мастацкім аздабленнем вылучаліся аўчынныя кажухі і паўкажушкі.



Падрыхтаваў да друку
**Дзяніс РАМАНЮК.**

# МАЁЙ БЕЛАЙ...

Адама Міцкевіча "Балады і рамансы". У крытычным водгуку вядомы крытык Ю. Колебах пісаў наступныя словы: "У задыхлую атмасферу ўмоўных, будуарных сентыментаў, прапахлых мускусам Талімэны, упалі "Балады", быццам букет апырсканых расою вясновых кветак з сельскіх палёў. Ад гэтых майскіх кветак, ад гэтых вясновых пралесак з берагоў Свіцязі, ад водару чаромхі з курганка Марылі павеяла свежасцю па ўсёй Польшчы".

У такім параўнанні адчуваецца гістарычны прагрэс, існуе фармальная мастацкая традыцыя пісьменства на роднай мове, але ў творчасці Сакрата Яновіча (можа больш, чым у каго) адчуваюцца і страты дасягненняў папярэдняй славянскай культуры: празмерная празаізацыя і пабытавасць у манеры пісьма, гумар, тоесны гарадскому анекдоту і жорсткаму гарадскому рамансу, апісальнасць, амаль фатаграфаванне змены настрояў героя (дзе асабліва адчуваецца вельмі непажаданая аддаленасць ад псіхалагізму) — усё гэта выводзіць на больш шырокія, ужо не літаратуразнаўчыя высновы і роздумы.

Грамадска-дзяржаўны вопыт існавання традыцыі суседняй славянскай культуры (традыцыі польскай) міжволі вучыць, што галоўную ролю ў грамадстве адыгрывае сярэдні клас з непазбежнымі для яго поглядамі і матэрыяльна-практычнай заглыбленасцю. У параўнанні з папярэднім інтэлектуальная заглыбленасць беларускай культурнай традыцыі выглядае ледзь не эфемернай.

Вядома, беларускай інтэлектуальнай традыцыі бракуе практыцызму, але за ёю большая фундаментальная заглыбленасць як у духоўныя, так і ў пабытавыя бакі жыцця, і неабходны мудрасць і народнае пачуццё цэласнасці і гармоніі, каб, не згубіўшы найістотнейшага, надаць нацыянальнаму арганізму новыя крыніцы для жыццядзейнасці.

Міжволі згадваецца беларуская нацыя ў часы свайго адраджэння, часы Георгія Францішка Скарыны, асабліва трагічную пару такога імклівага і пакутніцкага беларускага праваслаўнага Рэнесансу пры жыцці св. выспаведніка Лявонція Карповіча, калі пры поўнай палітычнай і канфесійнай праўніяцкай рэакцыі толькі праз надзвычайныя фізічныя і духоўныя ахвяры нацыя ўзнеслася на найвялікшую сваю вяршыню. Ва ўсе эпохі існавання беларускай нацыі яе Рэнесанс быў непазбежна спалучаны з пакутамі, выпрабаваннямі і натуральным трагізмам хрысціянскага жыцця, але і ўзвышаўся прасветленасцю споведзі, пакаяння, даравання грахоў і надзеі хрысціянскай душы, любоўю да Сусвету і адчуваннем свайго арганічнага і гарманічнага існавання ў ім, далучанасцю да Госпада і ўсыноўленасцю ім, бо згодна з хрысціянскай аксіялогіяй, у трагізме і пакутах — сіла народа, жыццяздольнасць яго на скрыжалях гісторыі.

І хочацца пажадаць слыннаму аўтару большага далучэння да гэтай спрадвечнай жыватворнай крыніцы, прасвятлення і ачышчэння свайго таленту ў "гаючых водах" высокай хрысціянскай славянскай мастацкай традыцыі.

У "Супраслеўскім трыпціху" Сакрат Яновіч адзначае наступнае: "Душа яго акрыяла, сэрца птушкай забілася, голубам узляцела ангельскім, а ў вачах — дабрыня расквітнела васільковая. Цуд у ім, чалавека ў чалавеку, збыўся, самы чаканы з прычаканых, вялікі з найвялікшых — хрыстападобны! Зямля тут наша айчынная, да крыві касцей родная, са светам з'ядналая ахвярай пад'іконнаю, адданасцю ўсецялеснай. Быць нам на ёй, як Госпаду ў вышынях, як несмяротнасці ў бясконцасці непасціглай. Да Супраслія я іду, да Цябе — Іярдане Русі маёй Белай!"

СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# БЕЛАРУС — АДКРЫВАЛЬНІК МАРСКІХ НАФТАПРОМЫСЛАЎ

Валерый ЯРМОЛЕНКА,
*доктар геаграфічных навук.*

*Прыродазнавец і падарожнік, даследчык нафтаноснасці нетраў акваторыі Каспійскага мора Вітольд ЗГЛЯНІЦКІ (1850—1904) нарадзіўся ў Беларусі. Скончыў Пецярбургскі горны інстытут (1875) і атрымаў званне горнага інжынера. Працяглы час працаваў на горных заводах у Заходнім краі Расіі. Затым па не высветленых пакуль прычынах загадам па Горнаму дэпартаменту быў звольнены са службы. Адстаўка працягвалася 6 гадоў. Толькі з дазволу міністра дзяржаўных маёмасцей Згляніцкі зноў быў прыняты на службу па Горнаму ведамству з адкамандзіраваннем у Баку. І менавіта тут ён стаў ініцыятарам фантастычнай для свайго часу ідэі здабычы нафты з-пад марскога дна з дапамогай буравых вышак непасрэдна ў моры.*

**У БАКУ** Згляніцкі працаваў з 1891 года да канца свайго жыцця, г. зн. больш за 13 гадоў. Ужо неўзабаве пасля прыбыцця сюды ён набыў апарат для замеру скрыўлення свідравін, ліквідаваўшы недахопы апарата Фернштэрма, які прымяняўся ў той час для гэтых мэт, аб чым было даложана на пасяджэнні Рускага тэхнічнага таварыства. Указам Сената ад 22.06.1893 года Вітольд Згляніцкі быў узведзены ў надворныя саветнікі, пазней атрымаў чын калежскага саветніка, што адпавядала воінскаму званню палкоўніка.

Выкарыстоўваючы вольны час, уключаючы водпускі, ён самастойна вывучыў геамарфалогію і геалогію Апшэронскага паўвострава, паўднёвага ўзбярэжжа і шматлікіх астравоў Каспійскага мора і набыў аўтарытэт у пытаннях нафтавай геалогіі. Упэўнены ў наяўнасці пад дном Каспія багатых радовішчаў нафты, 29 ліпеня 1896 года ён звярнуўся ва Упраўленне дзяржаўнай маёмасці Бакінскай губерні і Дагестанскай вобласці з прашэннем аб адводзе яму двух участкаў мора, г. зн. марскога дна ў Бібіэйбацкай бухце пад разведку нафты пры дапамозе будаўніцтва ў моры буравых вышак на палевых апорах. Прашэнне Згляніцкага было адхілена на той падставе, што "мора і марское дно не значацца ў распараджэнні Упраўлення". Згляніцкі падаў прашэнне на імя міністра земляробства і дзяржмаёмасці, ён сцвярджаў, што адкрыццё новых раёнаў для здабычы нафты ў Баку вельмі важнае для нафтавай прамысловасці Расіі і дно Каспія можа быць адным з такіх раёнаў. На гэтае прашэнне таксама прыйшла адмова на той падставе, што "землі, занятыя морам, могуць быць прадстаўлены прыватным асобам не інакш, як па асобых прывілеях".

**ЗГЛЯНІЦКІ** настойліва працягваў дабівацца сваёй мэты. У сваім чарговым прашэнні на імя міністра ён указваў: "З пункту гледжання сучаснай тэхнікі, разведкі марскога дна не маюць ніякай цяжкасці, акрамя большага іх кошту ў параўнанні з разведкай, што праводзілася на сушы, затое здабыча нафты з нетраў марскога дна будзе нават лягчэйшая, чым на мацерыку, таму што нафту можна тут жа нагружаць на баржы і перавозіць у любое месца". Горны дэпартамент, якому было накіравана гэтае прашэнне, не змог па вартасці ацаніць смелую ідэю Згляніцкага і, спаслаўшыся на шэраг прычын (высокі сабекошт разведкі, шкода для рыбалоўства і праходу суднаў, небяспеку фантанаў), адмовіў.

Разам з тым Горны дэпартамент вымушаны быў прызнаць, што "вельмі пажадана высветліць ступень нафтаноснасці марскога дна і праверыць доследным шляхам тэхнічную магчымасць здабычы нафты і эканамічныя ўмовы спосабу Згляніцкага". У выніку Каўказскае горнае ўпраўленне ў 1897 годзе перадало пытанне аб здабычы нафты з дна Каспія на абмеркаванне тэхнічнай камісіі па ахове бакінскіх нафтапромыслаў. Камісія ў 1898 годзе прызнала неабходнасць выкарыстання марскога дна для здабычы нафты, але палічыла немэтазгодным марское бурэнне, указаўшы: "У тых частках марскога дна, дзе геалагічнымі даследаваннямі ўстаноўлена ўжо прысутнасць нафты і дзе наяўнасць нафтапромыслаў не прычыніць шкоды рыбалоўству і суднаходству, здабыча нафты можа быць дазволена, але не непасрэдна з паверхні мора, а пасля засыпкі зямлёй". І для адводу пад здабычу нафты прыбярэжнай паласы Каспія каля Баку была ўтворана спецыяльная камісія. Згляніцкі робіць чарговую спробу рэалізаваць сваю ідэю і дабіваецца разгляду гэтай камісіяй свайго праекта. 29 ліпеня 1900 года на пасяджэнні камісіі Згляніцкі падрабязна далажыў аб сваіх распрацоўках у галіне марскіх нафтапромыслаў.

Праект прадугледжваў бурэнне марскога дна пры дапамозе буравых вышак на палях; абсталяванне асобнай вышкі трывалымі знадворнымі і ўнутранымі абшыўкамі з непранікальным памостам, што ўзвышаецца над узроўнем мора прыблізна на 12 футаў, з мэтай спуску здабытай нафты самацёкам у баржы. Па краях памоста непранікальны борт вышынёй 4 футы, а на ўзроўні гарызонта вады — выратавальная панель на выпадак пажару; панель і памост злучаны жалезнай лесвіцай. На свідравіне прадугледжвалася шахта ў выглядзе жалезнага кесона з тампанажам унізе. На выпадак фантанаў прадугледжвалася "дзяжурная" баржа з жалеза, ёмістасцю 200 тысяч пудоў нафты.

Праект быў прадуманы вельмі старанна і вырашаны ва ўсіх дэталях, якія пераканаўча даказвалі тэхнічную магчымасць і эканамічную мэтазгоднасць здабычы нафты ў моры, але закладзеная ў ім ідэя аказалася такой дзёрзкай і так супярэчыла існуючай практыцы, што была адхілена і заменена абсурдным асваеннем марскога дна шляхам засыпкі, што і было пачата ў 1911 годзе, але Згляніцкага тады ўжо не было ў жывых.

**ПАЧАТАК** шырокаму выкарыстанню нафтавых багаццяў з дна мора быў пакладзены ў 1922 годзе ў СССР, калі па ініцыятыве С. Кірава ў раёне Баку была прабурана першая нафтавая свідравіна на штучна створаным астраўку ў бухце Ільіча (ранейшая назва — Бібіэйбацкая бухта). Свідравіна — першаадкрывальніца нафты 18 красавіка 1923 года ўдарыла магутным нафтавым фантанам з дна мора, з глыбіні 460 метраў. Затым на Каспіі таксама ўпершыню ў свеце была ажыццёўлена здабыча нафты ў адкрытым моры (на поўнач ад вострава Арцёма, 1934 год). З таго часу марскія нафтапромыслы атрымалі шырокае развіццё ва ўсім свеце.

Сусветная нафтавая навука, аднак, помніць, што праект нафтаздабычы на марскім шэльфе быў упершыню створаны ў Расіі на рубяжы XIX і XX стагоддзяў, калі за мяжой нават і не думалі аб выкарыстанні нафтавых багаццяў пад марскім дном. Тады гэта ўсім здавалася практычна немагчымым. Праект Згляніцкага сведчыць аб наватарстве і смеласці тэхнічных рашэнняў інжынера родам з Беларусі.

Згляніцкі пасля некалькіх гадоў беспаспяховай барацьбы апублікаваў свой праект і зацвердзіў тым самым за сабой прыярытэт тэхнічнай ідэі — "Аб мясцовасцях на Апшэронскім паўвостраве і па-за яго межамі, у якіх трэба было б утварыць участкі пад разведку нафты". Праз некаторы час ён памёр ва ўзросце 54 гадоў і, як мяркуецца, пахаваны ў Баку (па іншых звестках, у фамільным склепе с. Дэмбе на Беласточчыне). У сваім апошнім паслужным спісе ён адзначаў, што паходзіць з патомных дваран, і падкрэсліваў, што ні радавога, ні набытага маёнтка не мае. Сваю калекцыю мінералаў і багатую бібліятэку завяшчаў Бакінскаму аддзяленню Рускага тэхнічнага таварыства. У сувязі з устанаўленнем прыярытэту Згляніцкага ў стварэнні марскіх нафтапромыслаў асоба яго ў гісторыі нафтавай прамысловасці займае асобае месца.

НОВАЕ ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

# «ПОДЫХ ЮНІ ЎХОДЗЯЧАЙ МАЕЙ...»

*Працяг гутаркі журналісткі Галіны ШАБЛІНСКАЙ з Музай СНЯЖКО, аднакурсніцай і сяброўкай юнацтва Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА*

Дзівіліся. Радаваліся. Магчыма, падобраму зайздросцілі.

— Можа, вы згадаеце што-небудзь з асабістых сустрэч? У сяброў звычайна свае адносіны, і час, як правіла, паглыбляе іх. Выяўляе сутнаснае і змятае павярхоўнае...

— Я падтрымлівала роўныя адносіны са сваімі аднакурснікамі, але сябравала не з усімі. Проста камусьці сімпатызавала больш, камусьці менш. І сустрэчы нашы пасля вучобы таксама былі розныя, з неаднолькавай доляй цікавасці. Гэта натуральна.

Добрыя сяброўскія адносіны з Валодзем у мяне і маёй сям'і захаваліся да апошніх яго дзён. Разладаў не было. Мы, здаралася, падоўгу не пісалі, не бачыліся з-за нейкіх абставін. Але пасля нагняялі. Сяброў у яго заўсёды было шмат. У студэнцтве ён сімпатызаваў розным дзяўчатам і балюча перажываў промахі і няўдачы. Але яго генеральная лінія — вучоба — яму ўдавалася, і надта паспяхова.

Калі згадваць храналагічна, то першы раз пасля універсітэта мы сустрэліся ў канцы лістапада 1955 года ў цягніку "Кіеў — Сталіна" (цяпер Данецк).

Сустрэча выпадковая, але яна маральна мяне вельмі падтрымала. Мне было цяжка працаваць у вёсцы: прыгнятаў быт, дрэнныя веды вучняў. Я аказалася ў калектыве лішняй: настаўніца, на месца якой мяне размеркавалі, перадумала ісці на пенсію. Завуч школы, чалавек вельмі абмежаваны, спрабаваў мяне "загрызці". І я старалася на выхадныя дні ездзіць да бацькоў у Кіеў. Аднойчы, вяртаючыся ў Карапышы, ноччу ў тамбуры цягніка я нечакана для сябе ўбачыла Валодзю. Ён таксама быў у Кіеве па аспірацкіх справах. А цяпер ехаў у свае Лесавічы.

Помню першыя словы Валодзі: "Як ты? Дзе ты жывеш? А што тата з мамай?" Потым, канешне, мы сталі дзяліцца ўражаннямі пра сваю новую працу. Але то не была прафесійная размова: методыка выкладання, навучальныя планы і г. д. Проста сустрэліся два аднакурснікі, два блізкія чалавекі. І кожны хацеў зразумець другога: як ён сябе адчувае ў новым асяродку, што ў яго атрымліваецца і што ён збіраецца рабіць далей.

Я ў вёсцы вельмі нудзілася, хаця старалася спакойна рэагаваць на ўсё. Караткевіч да гэтага ставіўся інакш. Ён настаўнік, але трапіў у побыт, якога раней не ведаў. І ўсё яго цікавіла: як баба самагон варыць, куды дзед на конях паехаў?.. (Тады былі надзвычай снежныя зімы і ездзілі на санях.)

У Валодзі адразу ж з'явіліся каларытныя фігуры з ліку яго новых знаёмых: гаспадароў, суседзяў, вучняў (праўда, вучні ў нас ва ўсіх былі каларытныя). Ён здолеў новае для яго жыццё ператварыць у байкі, расказікі, малюнкі. І я не помню, каб ён з нейкай нервовасцю ці злосцю казаў, што вось яго ў вёску "сапхнулі". Не. Пачуццё ўласнай годнасці і гумару і тут выратоўвала яго.

Хаця, безумоўна, у яго меліся свае праблемы. Ён марыў пра аспірантуру, але...

Гэтая наша сустрэча засталася самай яркай. Магчыма таму, што яна адбылася на новым шляху ў абсалютнай адзіноце... Іншыя сябры яшчэ не з'явіліся. Усе ранейшыя студэнцкія раз'ехаліся, і мы не паспелі нават пасланць адзін аднаму лісты. А тут — нечакана Валодзя... Быццам у пустыні стрэла роднага чалавека...

Была яшчэ адна непрадбачаная сустрэча. У рэстаране "Метро" ў Кіеве. Я не любіцелька, адразу скажу, туды хадзіць, але неяк нас з мужам запрасіў яго сябар. Мы сядзім, вячэраем. Я спакойна пазіраю вакол. І раптам не веру сваім вачам: Валодзя? Крыху ўбаку ад нас ссунуты 2 сталы, за якімі — мужчынская кампанія, і ў цэнтры — Караткевіч. Я кажу мужу, а сама вельмі дзіўлюся, бо, калі гэта Валодзя, то чаму ён нас не папярэдзіў, што будзе ў Кіеве? Мы ж даўно не бачыліся. З гэтай думкай я падымаюся і выглядваю з-за калоны: раптам памылілася? Не. Караткевіч. Тут ён узнімае вочы, пазнае мяне — абдымкі, пацалункі. Ён падыходзіць да нашага століка павітацца, мы дамаўляемся на сустрэчу ў нас дома, і ён вяртаецца ў сваю кампанію. Праз некалькі хвілін афіцыянт прыносіць бутэльку шампанскага, каробку цукерак, аўтограф на сурвэтцы: профіль Караткевіча з адтапыранай губой і подпіс. У гэтым раскошным жэсце — увесь Караткевіч. Апошнія грошы будуць — ён іх усё роўна аддасць у падобнай сітуацыі. І гэта не паказуха. Галоўнае — зразумець, што ў Валодзі не было нічога паказнога. Ён ніколі не працаваў на публіку...

Былі яшчэ розныя сустрэчы. Адна з іх адбылася ў 70-х гадах у Мінску, на вуліцы К. Маркса, на кватэры Валодзі. Валодзя з Валяй тады вярнуліся з Крыма, а Фларыян Няўважны мне патэлефанаваў, што прыедзе з Варшавы ў Мінск па сваіх справах. Я прапанавала: "У такім выпадку мы з мужам возьмем адпачынак, і ўсе збяромся ў Караткевіча". Канешне, гэта была зусім іншая сустрэча. Валодзю на той час ужо друкавалі, яго ўжо прызнавалі. Ён ажаніўся. Жыў у новай кватэры. Гэта быў другі Караткевіч. Валя нам спадабалася. Мы адразу прынялі яе ў кола сяброў. Як Валодзеву жонку і як сябра. Яна пра яго турбавалася, яна пра яго клапацілася. І на той нашай сустрэчы я зразумела, што ў Караткевіча пачаўся новы этап жыцця.

— Вы гэта адчулі?

— карацей, па нашых студэнцкіх мясцінах. А потым яны з Валей прыехалі да нас. І мы цудоўна правялі той дзень. Валодзя шмат размаўляў з маімі дзецьмі. І, дарэчы, вельмі здзівіўся, абсалютна сур'ёзна, што мая нявестка — украінка: "Як? Мама ж твая беларуска! Значыць, і ты — беларуска!" І мне потым сказаў: "І ўнучка твая — таксама беларуска. Што ж гэта вы..."

Валодзя быў не зусім такі, як раней: супакоены, надзвычай ураўнаважаны, можа, нават крыху абстрагаваны ад усёй мітусні. Ён расказваў пра жыццё на Беларусі, пра свае праблемы, ідэалагічна-палітычныя складанасці. Перыядычна абураўся асобнымі фактамі, але быў настроены пагодна.

— Муза Яўгенаўна, можа, крыху больш падрабязна раскажаце пра вашу апошнюю сустрэчу з Уладзімірам Сямёнавічам? Таму што першае і апошняе ў жыцці — яно як кропкі, як вехі, як знакі, калі хочаце, у лёсе чалавека...



*Дні беларускай літаратуры і мастацтва, прысвечаныя 65-годдзю У. Караткевіча. Ля помніка пісьменніку. Орша, лістапад 1995 г.*

— І я гэта адчула, і Фларыян таксама. Мы парадаваліся за Валодзю...

Памятаю яшчэ, як Валя з Валодзем прыязджалі да нас разам у Кіеў. Там праходзіў кангрэс ЮНЕСКА па славянскіх культурах (Валя выступала з дакладам). З папярэдняга званка я ведала пра іх прыезд. Можна было скарыстаць момант і сабраць увесь курс, але Валодзя дрэнна сябе адчуваў, і я не стала гэтага рабіць. Ён мне сказаў, што запланаваў толькі два візіты: да нас і Мішы Гальдштэйна.

Пакуль Валя працавала на кангрэсе, Валодзя хадзіў па горадзе: на Уладзімірскую горку, ля універсітэта, у парку

— Так, у гэтым ёсць праўда... Апошні раз мы бачыліся з Валодзем на сустрэчы нашага курса летам 1984 года. Рыхтаваліся мы да яе доўга. Сабралі аргкамітэт. У студзені парассылалі ўсім запрашэнні, пісьмы, анкеты. Я ведала, што Валодзя цяжка хворы. Ён пахаваў жонку. Яго апякала сям'я сястры. І ўсё ж ён першым адгукнуўся на наша запрашэнне. Абяцаў пры магчымасці абавязкова прыехаць. У яго была просьба: заказаць яму асобны нумар у гасцініцы. Ён лічыў, што едзе на сустрэчу з усім курсам, а значыць у госці ні да кога персанальна не пойдзе. (Мусіць, каб нікога не пакрыўдзіць).

Працяг.
Пачатак у №№ 48—52, 1998 г.
і ў №№ 1—3, 1999 г.

# НОВЫЯ КНІГІ
## ПА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ
### ПРА БЕЛАРУСЬ І ЯЕ ЖЫХАРОЎ

**Апейка М. Ф.** Чым аралі нашы продкі? Эвалюцыя земляробчай тэхнікі ў Беларусі. У гэтай частцы арт. прааналізаваны ўзровень развіцця механізацыі сел. гасп-кі ў Гродзен. губерні ў пач. XX ст.] // Агропанорама. 1998. № 1. С. 37—38. Працяг. Пач. у № 1, 2, 4 за 1997 г.

**Барыс А.** Палітычныя партыі і арганізацыі на Беларусі ў першай палове XX ст.: [Агул. характарыстыка. Звесткі сістэматызаваны ў табліцу: назва партыі, арбіявітура, час існавання, заснавальнікі і кіраўнікі] // Бел. гіст. часоп. 1998. № 1. С. 26—30.

**Мясніко́ў А. Ф.** Рэвалюцыя 1905—1907 гадоў на Беларусі // Гуманіт.-экан. весн. 1998. № 1. С. 31—35.

**Забаўскі М. М.** Аграрнае пытанне ў Расійскай Дзяржаўнай думе III склікання [1907—1912 гг.] і пазіцыі дэпутатаў ад Беларусі // Весці Бел. дзярж. пед. ун-та. 1998. № 1. С. 59—70.

**Канчар Я.** Аўтабіяграфія з Пушкінскага дома: [Публікацыя аўтабіягр. паліт. дзеяча, гісторыка, публіцыста, вучонага ў галіне эканамічнай геаграфіі Язэпа Сцяпанавіча Канчара (1882, Лоеўс. р-н — 1979), напіс. у 1913 г. для рус. гісторыка літ. С. Вянгерава] / Прадм. В. Скалабана "Язэп Канчар" (с. 1) // Голас Радзімы. 1998. 5 сак. (№ 9). С. 4. (Нашы славутыя землякі).

**Скалабан В.** Беларусь і Украіна: разам да незалежнасці: [З гісторыі бел.-укр. супол. змагання за пабудову незалеж. Беларусі і Украіны, 1917 г.] // Спадчына. 1998. № 1. С. 197—206.

**80 лет** Вооруженным Силам Республики Беларусь: [История и сегодняш. день армии, 1917—1998 гг.] / Предисл. Ю. Иванова // Армия. 1998. № 1. С. 2—25.

**Весялкоўскі Ю.** Права народу: [Падзеі пач. 1918 г.] // Бел. Мінуўшчына. 1998. № 1. С. 11—17.

**Недасек Н. [Адамовіч Ант.]** 1918—1948: Да трыццатых угодкаў найвызначнейшых падзеяў нашага нац. руху: [У гэтай частцы арт. разглядаюцца падзеі пач. 1918 г.] // Спадчына. 1998. № 1. С. 51—74.

**Кахановіч М.** Магілеўцы і незалежнасць Беларусі: (Мае ўспаміны): [1918 г. У падрадк. заўв. (с. 3) змешч. звесткі пра аўт. успамінаў — бел. паліт. і грамад. дзеяча, першага дырэктара Вілен. бел. гімназіі Міхаіла Кахановіча (1884—1934)] // Спадчына. 1997. № 6. С. 3—5.

**Кулеш А. Ф.** Здесь был последний и решающий...: [Про бой 37-го стрелкового полка РККА с польскими легионерами Ю. Пилсудского за г. Лиду, который происходил в сент. 1920 г. во время совет.-польской войны 1919—1920 гг.] // Оникс. 1998. № 3. С. 5—6.

**Тимофеев Р. В., Тогулева Е. Д.** Налоговая политика Беларуси в области торговли в годы НЭПа [20-е гг.] // Гуманіт.-экан. весн. 1998. № 1. С. 36—43.

**Бяспалая М. А.** Ідэя самаабкладання як праяўленне новай эканамічнай палітыкі ў галіне культуры [20-я гг.] // Весці Бел. дзярж. пед. ун-та. 1998. № 1. С. 77—82.

**Платонаў Р.** Галоўнае — незалежнасць!: Забытая старонка з гісторыі Беларусі: [20-я гг.] // ЛіМ. 1998. 20 сак. (№ 12). С. 14—15.

**Каляда І. У.** Палітыка беларусізацыі [20-я гг.]: прычыны яе згортвання [у канцы 20-х — 30-х гг.] // Весці Нац. акад. навук Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1998. № 1. С. 75—80.

**Верховный Суд Республики Беларусь:** История и современность (1923—1998) / Под общ. ред. В. О. Сукало и Л. Л. Зайцевой. — Мн.: ИнтерДайджест, 1998. — 239 с.: фот. — 1000 экз.

**Литвиновский И. А.** Укрепление электроэнергетического хозяйства Белоруссии в годы довоенных пятилеток [1927—1941 гг.] // Весц. БДУ. Сер. 3, Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Права. 1998. № 1. С. 14—17.

**Корж В. З.** Моя борьба и труд: [Автобиогр. воспоминания и партиз. дневник 1941—1942 гг. одного из организаторов и руководителей партиз. движения на Беларуси в годы Великой Отеч. войны, Героя Сов. Союза Василия Захаровича Коржа (1899, Солигор. р-н — 1967)] / Вступ. слово и публ. З. Корж и др. // Нёман. 1998. № 2. С. 177—228.

**Мігунова А. А.** Беларускія "остарбайтэры" і прапаганда нямецкай акупацыйнай улады ў 1941—1944 гг.: [Раскрываюцца захады ням. акупацыйн. улады па вярбоўцы працоўн. сілы ў Германію] // Весці Бел. дзярж. пед. ун-та. 1998. № 1. С. 59—70.

**Галавачэнка Р.** Азарычы — боль і гнеў беларускага Палесся: [Пра Азарыц. лагеры смерці, створ. фашыстамі ў перыяд з кастр. 1943 па сак. 1944 г.: Таксама па ўспамінах вязняў] // Маладосць. 1998. № 1. С. 209—221.

**Петр Миронович Машеров:** К 80-летию со дня рождения [гос. деятеля БССР] // Армия. 1998. № 1. С. 26—31.

**Булыка Г.** Любовь сильнее времени: [Воспоминания о П. М. Машерове: По материалам беседы с его женой П. А. Машеровой] // Бел. думка. 1998. № 2. С. 22—30.

**Гіль М.** "А без яе — зусім не жыць...": З запісаў першых гадоў перабудовы: [Грамад.-паліт. жыццё Беларусі ў 1986—1988 гг.] // Полымя. 1998. № 2. С. 210—259.

*З гісторыі асобных рэгіёнаў, гарадоў, вёсак і іх назваў (у алфавіце геаграфічных назваў):*

**Міншчына:** Назвы насел. пунктаў паводле легендаў і паданняў / Склад., запіс і апрац. А. Н. Ненадаўца. — Мн.: Беларусь, 1998. — 718 с. — (Мой родны кут). — 2000 экз.

**Памяць:** Нараўлянскі раён / Уклад.: П. П. Рабянок, К. Ф. Ярмоленка; Рэдкал.: Г. К. Кісялёў (гал. рэд. выд. цэнтра БЕЛТА) і інш.; Маст. Э. Э. Жакевіч. — Мн.: БЕЛТА, 1998. — 445 с.: фат. — (Гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі). — 5000 экз.



НА КОНКУРС «БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ»

# «ПЕРАЛЁТНАЯ ПТУШКА»

*Дзень добры, шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"! Піша вам пералётная птушка — паэтка з блізкага замежжа, ваша пастаянная чытачка Іна Снарская. Неаднаразова збіралася напісаць у паважаную і любімую мной газету, але ажыццявіць гэтую задуму падштурхнуў конкурс "Беларусь у маім сэрцы".*

*Вось ужо 11 год, як я жыву на Украіне, а думкамі лячу ў родныя мясціны, бачу сваю зямлю. Туга па радзіме, зразумелая кожнаму беларусу замежжа, кладзецца радком, нараджае вершы, якія жывуць у сэрцы побач з любай Беларуссю. Амаль не маючы беларускамоўнага асяроддзя, я не забываюся на родную мову. Мае знаёмыя кажуць, што гэта генная памяць, голас продкаў. Дужа хочацца, каб мае вершы прачыталі не толькі ў Беларусі і на Украіне, але і браты і сёстры з-за мяжы. Думаю, ім гэтаксама баліць...*

*У Палтаве мне ўдалося арганізаваць невялічкі культурна-асветніцкі асяродак беларусаў "Агніца". Час ад часу мы ладзім вечарыны беларускай паэзіі, выступаем з артыкуламі ў мясцовай прэсе. Людзі цягнуцца адзін да аднаго, каб не зачарсцвець душой, каб не згубіць спрадвечную памяць, узмацніць ніткуповязь са сваёй роднай зямлёй.*

*Некалькі слоў пра сябе. Нарадзілася ў 1965 годзе ў слаўным Полацку. Скончыла Наваполацкі політэхнічны інстытут. Друкавалася ў часопісах "Маладосць", "Беларусь", "Полымя", "Крыніца", "Першацвет", "Край". У 1994 годзе ў бібліятэчцы "Маладосці" выйшаў мой першы зборнік вершаў "Пацеркі". Нядаўна ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" надрукавалі мой новы зборнік "Пачакай, мая птушка...", які я чакала аж 7 гадоў. Зараз укладаю новую кніжачку паэзіі "Лясная панна". Вершы, якія я прапаную на конкурс, у іншых перыядычных выданнях не друкаваліся. Частка з іх увайшла ў зборнік "Пачакай, мая птушка...", а частка — зусім новыя.*



*Я забылася сказаць пра свой род заняткаў у Палтаве. Зараз я працую на дзяржаўным абласным тэлебачанні рэдактарам аўтарскіх праграм. Вучуся ў Палтаўскім педагагічным інстытуце на філалагічным факультэце. У сакавіку мінулага года мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Вось, здаецца, і ўсё.*

*Ад імя ўсіх беларусаў Палтавы дазвольце павіншаваць рэдакцыю "Голасу радзімы" з Новым годам і Нараджэннем Хрыстовым. Жадаем усім здароўя, натхнення ва ўсіх справах, мужнасці і надзеі на лепшае. Прывітанне ўсім суайчыннікам на радзіме і за мяжой.*

*Да пабачэння. З павагай і любоўю*
*Іна СНАРСКАЯ.*

## БЕЛАРУСІ

Вочы мае — вякі,
Я мяняла вас на шаўкі,
Я мяняла вас на рыззё,
А ў руках — адзін чарназём.

Каб ты срэбрам быў,
чарназём,
Я б цябе захінула рыззём,
Загарнула б цябе у шаўкі, —
Толькі веру маю пакінь!

Я — чарніца гэтай зямлі,
Я — званіца, —
мой звон памяні,
Я — блудніца, —
даруй, не гані,
Не кідай у мяне камяні.

* * *

Белую кашулю —
апантаны лёс —
Мне анёл самотны
на плячах прынёс.
Доўга мы сядзелі
побач ля стала,
Сустракалі промні
зорнага святла.
Першы промень гнуткі
грудзі мне прабіў,
Свечку памінальную
у куце гасіў.
А другі, блакітны,
веі апаліў:
Бачыла дарогу,
квецень родных ніў.
Трэці і чацвёрты —
рукі волю снілі,
За спіною крылы
адрасталі-нылі.

### РАГНЕДА

### (ТРЫПЦІХ)

### ПЛАЧ ПАЛАЧАНІНА ПА РАГНЕДЗЕ

1

Крывічаначка,
ясачка, птушка,
Жыць далёка ці сілы стае!
Стогадовыя хвоі не глушаць
Развітальныя песні твае.

Як жывецца ў палацы,
ў палоне?
Дождж вяроўкі маркотныя ўе.
Не напіўся з дрыготкіх
далоняў,
Не нагладзіўся косы тваe.

Адляцела бусліцай у вырай,
Зрабаванай, змарнелай,
чужой...
Як цябе мне на волю
вырваць! —
Скон хіба павянчае крыжом.

2

Я ніколі цябе не пабачу,
Ты апошні мой прывід і сон.
Варажу,
загавораю,
плачу,
Мой вянок на вадзе
ці праклён
Затрымаўся,
а свечка пагасла.
Па рацэ ён плыве,
па шчацэ...
Там ад поўні трывожна і ясна,
І бацькі там жывыя яшчэ.
Там гасцінны наш дом
на узвышшы
І любімых братоў галасы.
Вецер зоркамі музыку піша
І ўплятае ў мае валасы.

3

Пусціўся дождж,
як на маёй радзіме.
Салёны вецер кветкамі гуляў
І на падлогу мне адну падкінуў,
Пялёсткі-крылы кволай
паламаў.
Я заламала рукі разам
з кветкай,
І разам з кветкай вецер
я малю:
Ты забяры, сцюдзены,
з гэтай клеткі
І пакладзі памерці на зямлю.

Зямля мая, счарнелая
ад болю,
Спустошаная,
ў попеле, крыві,
Зямля мая,
пагавары са мною,
Дачку сваю —
пакутніцу, прымі.

## ЛЯСНАЯ ПАННА

Яшчаркай выслізну з рук тваіх,
Упаду ў траву тварам,
Буду піць расу, кожны гук
Каўткамі вялікімі, ранай.

Буду піць лясы, галасы,
Па полю імчацца ланню,
Ты не бачыў такой красы:
Мае вочы — світання.

Птушкай лячу нястрымнай,
Клеткі прыдумалі людзі,
Для ўсіх і паўсюль айчына
Неба вольная грудзі.

Коласам вырасту ў полі,
Крыламі ветру,
Сценам і даху ніколі
Не стрымаць волі ветразя.

Безліч стварэнняў саткана
Ува мне. Не спужайся — бяры,
Я сягоння лясная панна,
Дачка зары.

"Я только раковина,
где еще не умолк океан..."
М. Цвятаева.

* * *

Мне сон прысніўся,
быццам вецер
Цярушыць снег
на плечы вокан,
Маё збавенне — гэты вечар,
Пакуль жывая і ня змоўкла.

Мая краіна — за лясамі
І за гарамі, — век палёту,
Ірвуць маўчанне галасамі
Там рукі і званы, а потым

Ужо лес — ня лес, а шлях
у песню,
Крок да сябе —
адвечнасць тайны,
Адвечнасць голасу
ўваскрэснуць,
Трапа звярыная — вяртанне.

Мая краіна — вольны ветразь,
Яшчэ — трава, яшчэ —
нябёсы...
А я лячу дарогай ветру
І ў валасах іскрыцца восень.

* * *

З дому бягу
па расе, па снегу.
Ёсць такая гульня
у маленькіх:
будаваць дом
у лесе, у полі —
паўсюль,
дзе ветру даволі.
Дзе стоя — нябёсы,
дзе сцены — шаты,
такі дом мне б мець,
такі дом статны.
З дому бягу,
як промень ад сонца
цалаваць шчаку
першаму ў вёсцы ваконцу.
Цураюся покуці:
шчур ёй,
мне — каптур,
дзе неба дыван
дзінькае
птушынымі галасамі,
музычнымі скрынькамі,
сонечнымі радкамі.
З дому бягу,
куды вочы глядзяць, —
дзяцел склікае знаёмых,
сясцёр, братоў невядомых.
Спяшаюся па расе
Ў гасцінны той дом
паспець.
Там промень пяшчотны,
там вецер шаўковы,
там вольныя ўсе галасы
і родная мова.

* * *

Мой лес, я табе спяю
Апошнюю песню пра лета,
Мой лес, я тваю зямлю
Укрыю крылом паэта.

А потым блакіт нябёс
Бяссоннем душы пазначу,
Прыму, як шалёны лёс,
Як сонечны зваблівы мячык.

Свяціцца ў вачах расе,
Куваць адзічэлым
сёстрам, —
А я сыду пакрысе
У звонкія вечныя сосны.

А я — толькі ветру ўздых,
А я — толькі ліст шаўковы,
І зоркі ў руках маіх
Спяваюць на роднай мове.

## ГАРМОНІЯ НАТХНЕННЯ

Камень, камень рэжа ценем,
Сонца, сонца сэрца возьме,
Грай, гармонія натхнення,
Грай, пакуль жывыя слёзы.
Серафіму — крылы, крылы,
Немаўляці — сонца, сонца,
Грай, гармонія натхнення,
Грай, гармонія, бясконца.
За мяжой, мяжой — калыска,
У калысцы — ясны сокал,
Грай, гармонія натхнення
І сляпі пустэчы вока.
Вокны, вокны, мушлі, мушлі, —
Не душы мяне, душа,
Я ляцець дадому мушу
На пярынцы ад крыла.
А гармонія натхнення,
Папалам сусвет ірве:
Вечар, вечар, сцены, сцены,
Белы ветразь на стале!..

* * *

Да вясны —
толькі вечнасці крок,
Крык крумкача перад бурай.
Падказала чарговы урок
Мне сівая зязюля.

Вечар поле прымусіў
памерці
Да світанкавай чыстай расы,
Дзе мае пералётныя дзеці,
Адзвінеўшыя каласы!

Дзе мае векавечныя сосны! —
Струмянее, ірвецца вясна
З кожнай восені паднябёснай,
Адзічэлай зімы вясла.

Разумею, што гэта —
прымара,
І, напэўна, жыццё да цяпла...
Адлятаю дамоў лёгкай хмарай,
Белым ўзлётам пяра.

* * *

А калі стамяцца плечы,
А калі знямеюць рукі,
А калі засмягнуць вусны,
А калі здранцвееш ты, —
Ацалеюць толькі крылы —
Дзве магутныя дубровы,
А ў дубровах шчырым словам
Пракавечныя званы.

* * *

Душа ляцела да зямлі —
Гарэлі крылы,
Ляцела з зорных гарадоў
На бераг мілы.

Прагорклы дым
у твар ёй біў —
Не ўбачыць свету.
Душа дарогаю злягла
Ад злога ветру.

Душа, душа, ты да каго
Хваробнай ноччу?
У полі вогнішча трымціць
І слепіць вочы.

Як дацягнуць ёй да зямлі
У град і злівы,
Калі, счарнелая ужо ўся,
Згубіла крылы.

Як даспяваць ёй да зары,
Зары прарочай,
Дзе па рацэ вянок плыве,
Вянок сірочы.

* * *

А ноч плыве пад зорным
парасонам,
Дрыготкая і крохкая, як шкло.
Мінулае належала бяссонню,
А будучае — крылы апякло.
Што там яшчэ!
Далёкая дарога,
Зноў торбу пазычаць
у жабрака.
Радкі кладуцца болем
і трывогай:
"Сафія спіць,
спяшаецца рака..."

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ МАРГАРЫТЫ СТАРЫХ

# ГУЛЬНЯ Ў КВАДРАТЫ

*Квілцінг, ці пэчварк, — гэта па-замежнаму, а па-нашаму — занятак бабуль, якія некалі доўгімі зімовымі вечарамі з абрэзкаў рознакаляровых шылі коўдры, дываночкі. І такія яны прыгожыя, вясёлыя атрымліваліся — дарма што з адходаў розных! У вёсках і зараз хто-небудзь з жанчын такім чынам свой быт упрыгожвае. Гараджанкі ж такой справай ніколі асабліва не захапляліся.*

*Але цяпер справа іншая: зноў у пашане рукадзелле, вязанне, аплікацыя, вырабы з абрэзкаў, нават саломапляценнем гарадскія дамы захапляцца сталі. І нехта робіць гэта на такім узроўні, што асноўную прафесію кідаюць, аддаючы перавагу новаму захапленню. Праўда, і час такі настаў, што попыт на рукадзельныя вырабы з'явіўся — быццам бы люд гарадскі памалу пачынае разумець, што рэч, якой аддадзена цяпло рук чалавечых, не проста прыгожая, але яшчэ шматлікімі станоўчымі асаблівасцямі адрозніваецца.*



*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.*

...Калі Жанна Гардзеева едзе ў электрычцы да мацi (тая купіла дом ў вёсцы), яна вязе з сабой торбачку з нарыхтоўкамі-ромбікамі — "шкада час дарэмна губляць, ды і не цярпіцца прыкінуць, як і што атрымаецца". Іншы раз якая-небудзь спадарожніца не вытрымае, назіраючы за ёю, і з цікаўнасцю спытае: "Прабачце, што гэта вы робіце?" А майстрыха, усміхаючыся, адказвае: "Гуляю".

Так, занятак гэты захапляючы і не такі ўжо просты, як можа здацца. Гэта ў іншых краінах ёсць спецыяльныя магазіны, дзе можна не толькі падабраць неабходную тканіну, але і ўсё, што аблягчае тэхнічны бок справы, напрыклад, гатовы растр (rasterguit). А ў нас такога пакуль няма, таму для здзяйснення чарговай задумы даводзіцца Жанне Уладзіміраўне абысці не адзін магазін у пошуках, распытваць знаёмых, можа, у каго абрэзак неабходнага колеру застаўся, і паламаць галаву, каб усё "выкласці", як трэба.

Але затое ў выніку такія "дыванкі" атрымліваюцца! Вачэй не адарваць. Некалькі гадоў таму на адной з выстаў майстроў народнай творчасці я ўбачыла Жанін "дыванок" з лятаючымі матылькамі і не паверыла, калі даведалася, што аўтар гэтай работы — карэнная мінчанка. Засталося толькі здзіўляцца, якім чынам успрыняла яна адвечныя традыцыі беларускай "абрэзкавай мазаікі" і гэтак таленавіта перайначыла іх, адлюстраваўшы асаблівасці сваёй жаночай сутнасці. І такія зразумелыя радкі ў сшытку водгукаў адной з наведвальніц выставы, якія склаліся ў немудрагелістыя, але шчырыя верш:

*"Талантливые руки*
*Плюс творческие муки*
*Да искорка с Небес,*
*И вот — Поле Чудес.*

*Як радасна, што Зямля наша нараджае таленавітых людзей, чыё майстэрства цешыць вока і душу. Л. І. Каравянская".*

Непаўторнасць творчага почырку Жанны Гардзеевай прыцягнула ўвагу Нацыянальнага музея гісторыі і культуры, які набыў у майстрыхі некалькі работ. І гэта пры тым, што ў фондах яго прадстаўлена "абрэзкавая мазаіка" вядомых вясковых майстрых. А гады тры таму Жанна і міжнародную вядомасць атрымала — яе "квадрацік", адзіны з Беларусі, быў адабраны для агульнага спазу Qult (абрэзкавай коўдры) — коўдры свету, у якой праз міні-коўдрачкі (25х25) было прадстаўлена шмат розных краін. Уяўляеце памеры гэтага незвычайнага твора і яго прыгажосць?!

А яшчэ Жанне Гардзеевай выпала пабыць на міжнародным семінары па квілцінгу ў Суздалі, дзе яна прадстаўляла на выставе свае работы "Спелая вішня" і "Гульня з квадратам". І там яны прыцягнулі агульную ўвагу і заслужылі шмат добрых водгукаў.

Але гэта "вышэйшы пілатаж", а ёсць рэчы больш простыя — для хатняга карыстання: абрусы, сурвэткі, грэлка для чайніка, шторы, падушачкі для канапы... Нешта ўпрыгожана аплікацыяй, нешта цалкам з "абрэзкавай (лоскутковой) мазаікі", але ўсе гэтыя мілыя "дробязі" надаюць утульнасць дому Гардзеевых, робяць яго сонечным нават у пахмурныя дні.

ВЫСТАВЫ

# «КАЛЯДНЫЯ ЎЗОРЫ»

**Гэта выстава Саюза майстроў народнай творчасці ўжо пяты раз ладзіцца. І самым натуральным чынам доўжыць навагодні і калядны настрой сваім гасцям аж да канца студзеня, да дня закрыцця свайго. На гэты раз выстава разгорнута ў адной з залаў Беларускай політэхнічнай акадэміі.**

Ёсць тут чым душы парадавацца, наталіцца, бо столькі хараства рукатворнага сабрана разам! Хараства, якое вяртае нас да вытокаў духоўнасці, абуджае гістарычную памяць. І дзякуй майстрам за тое, што рукі іх зноў пацягнуліся да саломкі, лазы, бяросты і бясформеннага камяка гліны, каб укласці ў іх залацінкі свайго ўмельства, часцінку душы, каб падоўжыць традыцыі, не перарваць прадзіва, што лучыць продкаў і нашчадкаў. Мо таму так сімвалічна ўспрымаецца на выставе калядная зорка Галіны Саламянкі.



*Кераміка В. ДУНЕЎСКАГА.*

Знакамітае сямейства Саламянак з Баранавіч сваімі саламянымі творамі пацвердзіла, што мянушка, калісьці дадзеная іх продкам, зусім не выпадковая. І хаця ўжо некалькі год як пайшоў з жыцця Яўген Паўлавіч, галава сям'і, але сямейнае рамяство не згасла — Галіна, жонка майстра, дачка Таццяна і зяць Мікола Ажэль доўжаць яго. Саламяная прыгажосць гэтага сямейства мае сваю выразнасць, почырк, асаблівасці, якасць — усё, што нясе, як цяпер кажуць, фірменны знак.

Немагчыма адразу не пазнаць і саломку мінчанкі Галіны Сапун — яе галаўныя ўборы , букеты прасякнуты бязмежнай фантазіяй, што так цэніцца людзьмі сцэны. Вось чаму знакаміты ансамбль "Харошкі", убачыўшы іх, тут жа заказаў для сябе. Але на гэтых "Калядных узорах" майстар прадстаўлены яшчэ і ёлачнымі ўпрыгажэннямі, якія могуць канкурыраваць з любымі замежнымі і айчыннымі, бо прыгажосць іх вытанчаная, а натуральная залацістасць саломкі добра адцяняецца зялёнай хвояй.

Уяўляю, як добра ўпрыгожыць такая ёлка любы дом, дадаўшы яму яшчэ больш цяпла і ўтульнасці. Ну а калі абставіць яшчэ цудоўнай мэбляй з лазы Уладзіміра Лук'янца, накінуць на канапу адну з цудоўных посцілак Жанны Гардзеевай, а на стол паставіць збан і кубкі з абварной керамікі салігорскага майстра Аляксандра Кірычыка!.. Не, не можа такая прыгажосць быць старамоднай, наадварот, у наш час усялякіх стандартаў яна надзвычай патрэбная.

Вядома, кожная выстава — гэта яшчэ і магчымасць адкрыць для сябе новае імя. Цікавыя вырабы прадставілі І. Казачонак (Лепель), Г. Базбародзька — фігурную пластыку з ільновалакна (Мінск), ганчарны посуд — К. Цітовіч, А. Пракоф'еў (Клімавічы) — берасцянкі...



*Вырабы з лазы Т. САМОЙЛЕНКА.*

*Фота Віктара СТАВЕРА.*

«Голас Радзімы»

Рэдакцыйная калегія

**Заснавальнікі:**
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 604 экз. Індэкс 63854. Зак. 136.
Падпісана да друку 25. 01. 1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**
**Тэлефоны:**
**(+375-17) 13-31-97, 13-32-80, 13-30-15, 84-76-56, 13-37-82.**